Opłatę pocztową
uiszczono ryczałtem

Цана асобнага нумару 20 грошаў.

# НАРОДНАЯ СПРАВА

Выходзіць два разы ў тыдзень.

| Адрэс Рэдакцыі і Адміністрацыі: Вільня, Віленская вул. 12—6. (Wileńska 12, m. 6). Рэдакцыя адчынена ад 12 да 2 гадз. штодня, апрача сьвяточных дзён. Адміністр. ад 9 да 3. | Падпіска на адзін месяц з дастаўкай да хаты 1 зл. 50 гр. Для заграніцы ўдвая даражэй. Перамена адрэса 30 гр | Няпрынятыя ў друк рукапісы назад не вяртаюцца. Аплата надрукованага залежыць ад Рэдакцыі. | Цана абвестак: перад тэкстам 25 грош., сярод тэксту 20 грошы і на 4 стр. 15 гр. за радок пэтыту ў 1 шпальту. |
|---|---|---|---|

№. 35 — Вільня, Аўторак, 16-га лістапада 1926 г. — Год I

**№ 34 „Народнае Справы“ з 13-га лістапада с. г. сканфіскаваны па загаду камісара ўраду на м. Вільню за артыкулы „Прывітаньне братом“ і „Водгукі дэкрэту проці прэсы“, ды за фэльетон „Шляхам Грамады“ В. Грывіча.**

**„Kur. Wil.“ выказвае сваё зьдзіўленьне з прычыны таго, што першая рэпрэсія ў Вільні на падставе дэкрэту скіравана проці беларускае газэты, а ня проці эндэкаў. Казённыя дэмакраты ўдаюць наіўных, стараючыся давясьці, быццам дэкрэт меў на мэце іменна „обуздать“ эндэкаў... Цяпер хіба перастануць пісаць гэтак!**

## Умацаваньне адміністрацыйнае улады.

Прыймо, якое сустрэў у Сойме дэкрэт проці прэсы, выклікае ў нас некаторую надзею на тое, што дзейнасьць яго будзе спынена. Лішне ўжо крэпка б'ець ён і правых і левых!

Ведама, найгорш ад перадачы ўлады над прэсай у рукі адміністрацыі выйшлі так-званыя „нацыянальныя меншасьці“. Прыклад таго, як адміністрацыя карыстаецца дадзенымі ей правамі, мы мелі надовячы: апошні нумар нашае часопісі скенфіскаваны за артыкул „Прывітаньне Братом“ (з прычыны скліканьня ў Менску канфэрэнцыі ў справе ўсталеньня беларускага правапісу, на якой прадстаўнікоў Заходняе Беларусі дзеля „незалежных прычын“ не аказалася!), за заметку „Водгукі дэкрэту проці прэсы“ з чыста об'ектыўным разглядам праўных падстаў і значэньня дэкрэту, паўтораным за польскай прэсай, ды ўрэшце за літэратурны твор—апавяданьне „Шляхам Грамады“, у якім выведзены, паміж іншым, два ўрадоўцы—пачмэйстэр і камандант пастарунку, ды які прадстаўляе прост нявінную крытыку гэных тыпаў—раўнуючы, прыкладам, з Гоголеўскім „Рэвізорам“, дапушчаным на сцэну навет пры самай чорнай палітычнай рэакцыі ў царскай Расеі! Да таго-ж, калі справа йдзе аб пачмэйстэра, дык у нядзельным нумары ўрадовай газэты „Kurjer Wileński“ выведзены—і зусім бяскарна! — ўжо не літэратурныя пачмэйстары, а запраўдныя — з пошты ў Маладэчне, якія абрабавалі пісьмо з далярамі і ўзьвялі віну на бязьвіннага вазака і ўрэшце... апынуліся за кратай!

Але дэкрэт аб прэсе — гэта толькі першы крок у кірунку перадачы „паўнаты ўлады“—адміністрацыі. Надовячы мы прачыталі ў № 303 Корфантаўскае газэты „Rzeczpospolita“ карэспандэнцыю, у якой апавядаецца, што ваўкавыскі (хіба Валожынскі?!) павятовы соймік зьвярнуўся да Віленска-Троцкага з прапазіцыяй распачаць супольныя захады перад ваяводзтвам, каб справы аб шкоды, зробленыя сялянскай скацінай на панскіх палёх, разглядаліся ня судом, а ізноў-жа адміністрацыяй....

Як відаць, у сучаснай Польшчы намячаецца цэлы палітычны кірунак, які хацеў-бы ўсё жыцьцё народу аддаць пад „высокую руку“ паноў старостаў, зусім адкінуўшы ролю суда, які можа ў нейкай меры абмяжоўваць самаволю адміністрацыі. Абшарнікі, як відаць, нездаволены дзейнасьцяй судоў, хаця іх — пасьля сьмяротнага прысуду Тарнопольскага суда за прыналежнасьць і кіраўніцтва камуністычнай арганізацыі—ў лішняй мяккасьці вінаваціць немагчыма.... Дык рашучае выступленьне арганізацыяў польскіх журналістаў сталіцы і цэлага раду мест на правінцыі проці прэсавага дэкрэту мы мусім шчыра вітаць: гэта—адпор ня толькі проці абмяжаваньня свабоды прэсы, але і проці ўзмацненьня адміністрацыйнае ўлады наагул.

Які вынік будзе мець соймавая барацьба з прэсавым дэкрэтам, — ведама, прадбачыць сяньня немагчыма: гэта будзе спроба Сойму падняць у краі свой аўтарытэт, гэтак патаптаны выканаўчай уладай ад „маёвага перавароту“. І дзеля гэтага барацьба Сойму з урадам на груньце дэкрэту меціме шмат глыбейшае і шырэйшае значэньне, чым толькі абарона забясьпечанае Канстытуцыяй свабоды слова.

## ГРАМАДЗЯНЕ! памятайце, што тэрмін складаньня дэкляарацыяў на урадовую беларускую школу канчаецца 31-га сьнежня.

## Сойм і Сэнат.

### Урачыстае адчыненьне.

13 лістапада адбылося нарэшце ўрачыстае адчыненьне Сойму і Сэнату.

Раніцай у Сойме адбыўся рад нарадаў клюбаў — у справе ўчасьця ў урачыстасьці, якая была назначана ня ў Сойме, але — у Замку, дзе жыве Прэзыдэнт.

Цэлы рад клюбаў Сойму, як абодва беларускія клюбы, усе ўкраінцы і камуністы, ППС, НПР, Жыдоўскае Кола, Нямецкае Кола—пастанавілі—у знак пратэсту — ня прымаць учасьця ў урачыстасьці ў Замку.

Дыскусія ў некаторых клюбах аб тым, ці йсьці ў Замак, ці ня йсьці, была вельмі бурная. У выніку гэтага клюбы „Пяста“, „Вызваленьня“ і „Сялянскай Партыі“ ня прынялі згоднай пастановы і пакінулі сваім сябром вольную руку, ці лепш сказаць—наагул: ісьці, ці ня йсьці ў Замак... 5 паслоў Жыдоўскага Кола таксама зламалі партыйную дысцыпліну ды пайшлі ў Замак...

Гэткім чынам разам, як пішуць газэты, у салі Замку сабралося каля 200 паслоў і сэнатараў (з агульнага ліку 555)...

Пасьля розных цэрэмоніяў, старанна апрацаваных урадам, п. Прэзыдэнт прачытаў сабраўшымся гэткую прамову:

„Паны паслы і сэнатары! На падставе арт. 25 і 37 Канстытуцыі,—я—распараджэньнем сваім з 31 кастрычніка 1926 г.—склікаў у сталічнае места Варшаву Сойм і Сэнат на звычайную сэсію, пасьля распараджэньнем сваім з 8 лістапада 1926 г. я вызначыў дзень адчыненьня звычайнай сэсіі Сойму і Сэнату на сёньня. На гэту сэсію ўрад падаў 29 кастрычніка 1926 г. праект скарбовага закону разам з бюджэтным нарысам на час ад 1 красавіка 1927 г. да 31 сакавіка 1928 г. і будзе трэбаваць ад заканадаўчых палатаў разгляду гэтага законапраекту. Спадзяючыся, што паны паслы і сэнатары споўняць узложаны на іх абавязак, я абвяшчаю адчыненай звычайную сэсію Сойму і Сэнату“.

Прачытаўшы гэта, пан Прэзыдэнт, пакланіўшыся ўсім сабраным, выйшаў з салі. Уся ўрачыстасьць трывала толькі 2 мінуты...

### Паседжаньне Сойму.

А 5 гадзіне пачалося паседжаньне Сойму. Старшыня Ратай прачытаў сваё пісьмо да міністра скарбу, у якім, пазываючыся на трох-месячны тэрмін, засьцярэжаны Канстытуцыяй для разгляду парлямантам бюджэту, просіць міністра зьмяніць на гэтым законе дату падачы яго Сойму — з 28 кастрычніка на 13 лістапада,—бо толькі ад 13 лістапада фактычна Сойм мае магчымасьць прыступіць да разгляду бюджэту. — Дык толькі ад гэтага-ж дня павінен і лічыцца трох-месячны тэрмін для працы Сойму.

Вельмі цікаўна наагул для ўзаемных адносінаў Сойму і выканаўчай улады ў Польшчы, што ў сваей прамове п. Прэзыдэнт — ужо пасьля гэтага лісту Старшыні Сойму — паўтарыў, што бюджэтны законапраек пададзены 28 кастрычніка... Вельмі магчыма, што на гэтым груньце ізноў можа ўзгарэцца канфлікт. Бо-ж урад наагул, як відаць, хоча чым-больш абмяжаваць час чыннасьці Сойму, а, з другога боку, Сойм паміма бюджэту мае вельмі шмат іншай працы, якая нeяк не да смаку ўраду: у Сойм пададзена пасламі маса інтэрпэляцыяў, ды розных прапазіцыяў, паміж іншым — прапазіцыя аб скасаваньні прэсавага дэкрэту...

Пасьля старшыні першым узяў голас пасол Сохацкі (камуніст), які дамагаўся сьпешнага разгляду—яшчэ перад чытаньнем бюджэту — факту нарушэньня Канстытуцыі выданьнем прэсавага дэкрэту.

Старшыня даў чарговы голас міністру фінансаў, які шпарка, але нявыразна ды нячутна прачытаў сваё „экспозэ“. У часе чытаньня палова паслоў выйшла з салі.

Дыскусія аб экспозэ адложана на наступнае паседжаньне.

Пасьля гэтага старшыня заявіў, што й рад другіх клюбаў падаў прапазіцыю аб скасаваньні прэсавага дэкрэту. Трэба дадаць, што прапазіцыю гэтую падпісалі ўсе клюбы Сойму, апрача адзінага „Клюбу Працы“ (пасла Касьцялкоўскага). Прапазіцыя ўсіх гэтых клюбаў Сойму уложана, як закон з 3 артыкулаў; яна прадбачыць скасаваньне спрэчнага з Канстытуцыяй дэкрэту — ад 1 сьнежня с. г. Пад прапазіцыяй падпісаліся клюбы: ўсе групы беларусаў, украінцы, эндэкі, хадэкі, дубадэкі-строньчыкі, „Пяст“, пэпээсы, вызваленцы, польскі „Сялянскі Саюз“, Жыдоўскае Кола, Нямецкае Кола, каталікі-людоўцы і Незалежная Хлопская Партыя...

Апрача таго, падобную-ж прапазіцыю падаў асобна яшчэ і ўкраінскі пасол Хруцкі.

Старшыня Сойму, перадаючы гэтыя прапазіцыі ў камісію, дадаў, што — „з-паза Сойму высунуты цэлы рад фармальных „сумліваў“ у справе гэтых прапазіцыяў „...Але,— дадаў ён,—гэтыя „сумлівы“ якраз і будуць высьветлены ў юрыдычнай камісіі Сойму“... З гэтых слоў ясна, што трэба спадзявацца і на гэтым груньце можа вельмі вострай барацьбы „па-за-соймавых колаў“ — за дэкрэт...

Далей старшыня прачытаў прапазыку эндэцкага клюбу—аб выбары соймавай камісіі, якая-б занялася сама сьледзтвам у справе бандыцкага нападу на пасла Зьдзеховскага. Старшыня дадаў, што ад ураду ён атрымаў паведамленьне, што сьледзтва судовых уладаў яшчэ ня скончана, дык што дзеля таго ўрад лічыць перадчасным выбар соймавае камісіі. І гэтая прапазыка аддадзена ў юрыдычную камісію, якая таксама будзе і на гэтым груньце спорыць з урадам, аб чым сам старшыня Сойму выразна папярэдзіў старшыню юрыдычнай камісіі...

На гэтым паседжаньне зачынена. Наступнае паседжаньне назначана на аўторак. На павестцы яго стаяць—дыскусія над экспозэ міністра скарбу, справаздача юрыдычнай камісіі—ў справе абмены прэсавага дэкрэту і выбар аднаго з віцэ-маршалкаў на месца адмовіўшагася пасла-эндэка Плюціньскага. Клюб эндэкаў выставіў кандыдатам „нашага“ віленскага пасла Зьвежыньскага.

Агляд экспозэ міністра скарбу дамо ў наступным нумары—побач з дыскусіяй.

## Пратэст польскае прэсы.

На супольным сабраньні ўсіх прадстаўнікоў варшаўскай прэсы прынята рэзалюцыя пратэсту проці прэсавага дэкрэту — гэткага зьместу:

Прадстаўніцтва штодзеннай варшаўскай прэсы сцьвярджае, што дэкрэт з 4-га лістапада ёсьць нарушэньнем свабоды прэсы, — аднэй з істотных здабычаў дэмакртыі, а таксама і нарушэньнем грамадзкіх свабод. Дэкрэт нарушае перадусім асноўны прынцып адказнасьці прэсы толькі перад адпаведным судом. Прэса аддана на „суд“ адміністрацыйнай улады, якая ані сваім характарам, ані спосабом свайго паступаньня не дае ніякай гарантыі незалежнасьці і бесстароннасьці сваіх рашэньняў... Асаблівая небясьпека дэкрэту— у тым, што сваімі агульнымі азначэньнямі („распаўсюджываньня сьведама фальшывых, ці перакручаных“ хоць-бы праз нядбальства вестак ці чутак) — дэкрэт дае неабмяжаваны прастор для самаволі адміністрацыі... Дэкрэт захоплівае сваімі карамі ды „кругавой адказнасьцю“ столькі непавінных ні ў чым асобаў, што ў краі можа стварыцца стан поўнай „праўнай няпэўнасьці“. Дэкрэт нарушае і другі прызнаны ўсюды ў цывілізаваных краёх асноўны прынцып праўнага палажэньня прэсы. Гэта—права захаваньня рэдакцыйнай тайны. Гэтае права — падстава істнаваньня і ўсей працы прэсы... Нарушэньне гэтага права забівае прэсу. Аб'яднаныя журналісты заяўляюць згары, што астануцца надалей вернымі абаронцамі гэтага права рэдакцыйнай тайны і не адступяцца ад яго пад жадным варункам, у жадным выпадку. У канцы журналісты выражаюць пэўнасьць у тым, што гэты дэкрэт, як руйнуючы ўсё грамадзкае жыцьцё ў краі, будзе хутка скасаваны...

Цікава, што гэты пратэст падпісаны паўнамоцнікамі навет „бутэрброднай“ прэсы, як „Глос Правды“, „Кур. Поранны“ і інш., якія таксама зразумелі, чым дэкрэт гэны пагражае духоваму жыцьцю Польшчы...

Цікаўна таксама адзначыць, што ў-ва ўсей Польшчы знайшліся толькі дзьве газэты, якія без засьцярогаў адобрылі дэкрэт: гэта—віленскае „Слово“ і варшаўская „Польска Збройна“...

Варшаўская газэта „А. В. С.“ даносіць, што адзін з найвыдатнейшых польскіх прафэсароў-юрыстаў, сябра толькі-што зложанай „Рады Праўнічай“, — на запытаньне, як магла Рада юрыстаў прапусьціць такі супярэчны з законам і Канстытуцыяй дэкрэт аб прэсе — адказаў:

„Праект дэкрэту быў на разглядзе Рады. Але Рада, пазнаёміўшыся з яго зьместам, далей навет не разглядала яго, сцьвярдзіўшы супярэчнасьць дэкрэту з Канстытуцыяй“...

## У Польшчы.

### Першая ахвяра прэсавага дэкрэту.

Як пішуць газэты, першай ахвярай новага дэкрэту аб прэсе ў Варшаве зьявілася газэта Карфантага „Жэчпосполіта“, якая, ведама, спэцыялізавалася на выдумкі ўсялякіх „чутак“, можа і няпрыемных ураду, але-ж—далібог — зусім няшкодных для Польскай дзяржавы... Канфіскавана газэта за палеміку проці заяваў віцэ-прэм. Бартля, выхваляўшага дэкрэт...

Другой ахвярай дэкрэту зьявілася наша газэта ў Вільні. А вось „Кур. Віл.“ спадзяваўся, што першай ахвярай у Вільні будзе „Дзен. Віл.“!...

Газэты пішуць, што міністэрства ўнутраных спраў разам з мін. справядлівасьці апрацоўвае цыркуляр, які мае растлумачыць мясцовым уладам, як яны маюць тасаваць дэкрэт.

### Пэпээсы пераходзяць у рашучую апазыцыю да ўраду... „Таварыша Морочэвскага“.

На Канфэрэнцыі партыйных уладаў ППС разам з дэлегатамі пэпээсаўскіх Прафэс. Саюзаў (гарнякоў, мэталёўцаў, чыгунчыкаў і батракоў) пастаноўлена:

1) Спрацівіцца пробам польскга ураду аддзяліць Прафэс. Саюзы ад палітычнага ўплыву ППС; наадварот, — побач з імі злучанымі сіламі вясьці барацьбу за інтарэсы работніцкае клясы;

2) Заклікаць работніцкую клясу да барацьбы з урадам, які ў галіне сацыяльна-гаспадарчай палітыкі рашуча перасунуўся на плятформу капіталізму і вялікага абшарніцтва;

3) Зацьвярдзіць пастанову Цэнтр. Кам. аб пераходзе ў апазіцыю да ўраду.

Добра. Цікаўна толькі, — калі і які гэта польскі ўрад яшчэ не сядзеў на „плятформе капіталістычна-абшарніцкай“: можа тады, калі ў ім на мейсцы „тавар. Морочэвскага“ былі „таварышы Барліцкі ды Зяменцкі“?!

### „Таварыш“ Морочэвскі выйшаў... з партыі ППС!

У адказ на ўсе гэтыя пастановы—міністар Морочэвскі паслаў 13-га лістапада ў Цэнтр. Кам. Партыі заяву аб тым, што ён зракаецца ўсіх сваіх партыйных годнасьцяў ды становішчаў, не выключаючы і мандату пасла.

Экс-пэпээсавец Морочэвскі быў па сваей павазе і ўплывам першым, пасьля Пілсудскага, павадыром партыі польскіх сацыялістаў. І вось — першы-ж пасьля Пілсудскага рашуча кідае партыю.

Цікаўна, што ў часе гэтых апазыцыйных нарадаў Галоўнай Рады і Цэнтр. Кам. ППС пан міністар Морочэвскі... паляваў сабе ў Люблінскім павеце ў кампаніі міністраў ды іншых высокіх асобаў.

### Рэзультаты выбараў у варшаўскую Касу Хворых.

Выбары ў варшаўскую Касу Хворых далі вельмі цікаўныя рэзультаты.

З усіх працаўнікоў, маючых права голасу, галасавала толькі 25 працэнтаў, або—адна чвэрць.

На першым мейсцы—па ліку выбраных кандыдатаў—стаяць камуністы, якія атрымалі **21 мандат**; пасьля ідуць пэпээсы, атрымаўшыя **16 мейсцаў**; пасьля Бунд—4 мандаты, драбнейшыя сацыял. фракцыі — яшчэ менш.

„Польскія работнікі-нацыяналісты“ (НПР) атрымалі ўсяго 1 мандат. Хадэкі набралі галасоў на 11 мейсц. Умысловыя працаўнікі здабылі 5 мейсц.

Гэткім чынам у Варшаве сярод прале-

